Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 500.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 9 чэрвеня 1998 г. | № 60 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Беразоўскі атрымаў мінскую кватэру

**У інтэрв'ю расійскай тэлекампаніі НТВ выканаўчы сакратар Барыс Беразоўскі заявіў, што не збіраўся пераносіць штаб-кватэру Садружнасці з Мінска ў Падмаскоўе.**

Чуткі пра пераезд распаўсюджвалі на мінулым тыдні некаторыя беларускія чыноўнікі. Барыс Беразоўскі назваў гэта «закулісными інтрыжкамі», так што пастаянны прадстаўнік Беларусі пры СНД Сяргей Посахаў цяпер залічаны ў інтрыганы.

Б.Беразоўскі атрымаў у Мінску кватэру, якая пакуль пустуе. Ён паабяцаў жыць у Мінску столькі, «колькі патрэбна для справы».

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Паэты купаліся ў Свіцязі

*Пакуль адны чыталі вершы, другія дэмантавалі Леніна*

У мінулую пятніцу, на возеры Свіцязь адбылося беларуска-рускае паэтычнае свята. Яно было прымеркаванае да дня нараджэння Пушкіна (6 чэрвеня), а прысвечанае Адаму Міцкевічу.

Шмат вершаў прачыталі для публікі Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў і іншыя сталічныя паэты. Маскоўская знакамітасць Андрэй Вазнясенскі, апроч сваіх старых твораў, прачытаў верш пра Свіцязь і Міцкевіча, напісаны экспромтам у той жа дзень. Для ўдзельнікаў былі паказаныя дакументальныя фільмы «Адам Міцкевіч — Беларусь — Сусветная культура» і «Адам і Марыля». Адбылася прэзентацыя новай кнігі «Свіцязянскі вянок»: паэзія Міцкевіча прадстаўленая ў ёй на трох мовах — у польскім арыгінале і беларускіх і рускіх перакладах.

*Андрэй Вазнясенскі раздае аўтографы.*

Пакуль Вазнясенскі дэкламаваў паэзію, па суседству ў Навагрудку адбылася падзея гістарычнай важнасці: на гарадской плошчы дэмантавалі статую Леніна, каб не ўбачылі замежнікі, якія прыедуць у горад на юбілей Міцкевіча.

А на наступны дзень у Навагрудку засядаў аргкамітэт, які рыхтуе гэтае свята. Прыехаў нават старшыня ўрада С.Лінг, які патлумачыў, што трэба будзе добраўпарадкаваць Навагрудак і свята правесці на самым высокім узроўні, бо «гэта справа міжнароднага прэстыжу Беларусі».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

### Дэпутат галадае

**Дэпутат і прадпрымальнік Андрэй Клімаў восьмы дзень працягвае галадоўку ў следчым ізалятары.**

Жонка Клімава хацела перадаць у камеру неабходныя пры галадоўцы медыкаменты, аднак турэмная адміністрацыя заявіла, што ў турме ёсць усё сваё. Тацяна Клімава непакоіцца, што пад выглядам гэтых медыкаментаў Андрэю будуць даваць псіхатропныя прэпараты, каб «выбіць» з яго паказанні. «Ёсць падставы меркаваць, што псіхатропныя прэпараты Андрэю ўжо давалі, — кажа Тацяна. — Пасля сардэчнага прыступу ў канцы красавіка, калі Андрэй прымаў лекі, быў перыяд, што ён не спаў 5 сутак. Наўрад ці такое магчыма толькі па псіхалагічных прычынах».

Жонка і маці зняволенага дэпутата адправілі тэлеграму міністру ўнутраных спраў В.Агальцу, копію якой накіравалі ў групу АБСЕ. У тэлеграме яны просяць дазволіць ім спатканне з Андрэем, а таксама палепшыць умовы яго ўтрымання.

Апошняя просьба ўжо выкананая. Раней Клімава трымалі ў цеснай камеры, дзе на чатырох чалавек было двое нараў. Цяпер у той жа камеры знаходзяцца 3 чалавекі, і ў Клімава ёсць асобныя нары. На просьбу аб спатканні адказу пакуль няма.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

### Перадаваў опій для народа

**У адной з папраўчых калоніяў Магілёва арыштаваны вартаўнік, які перадаваў на "зону" наркотыкі.**

Затрымалі яго пры спробе перадаць опій, якога хапіла б на 30 разавых дозаў. Цяпер вартаўнік можа сам стаць «зэкам» на 10 гадоў.

**Іван ЗАСАДА**

## У які бок паверне Еўропа?

Упартасць беларускага прэзідэнта здзіўляе еўрапейцаў. На Захадзе не разумеюць, чаму Лукашэнка гэтак настойліва трымаецца свайго дыктатарскага курсу, нягледзячы на тое, што з-за такой палітыкі Беларусь нясе велізарныя палітычныя і эканамічныя страты. У еўрапейскіх структурах цяпер зноў паўстала пытанне: што трэба рабіць далей, каб нарэшце дамагчыся паляпшэння сітуацыі ў Беларусі. Гэтая праблема абмяркоўвалася 3 чэрвеня ў сценах Еўрапейскага парламента.

На паседжанне ў Брусель былі запрошаныя чатыры прадстаўнікі з нашай краіны — Генадзь Карпенка, Андрэй Саннікаў, Іосіф Сярэдзіч, Ігар Германчук. Кожны з іх меў 5-10 хвілінаў для выступу перад еўрапейскімі парламентарыямі. Столькі ж часу гаварыў і пасол Беларусі ў Бельгіі Уладзімір Лабуноў, які выклаў «афіцыйную пазіцыю беларускага ўрада», заявіўшы, што з правамі чалавека ў нашай краіне ўсё ў парадку, нікога не арыштоўваюць па палітычных матывах, на прэсу не ціснуць і г.д.

### Еўропу ў зман не ўвядзеш

Там выдатна ведаюць рэальнае становішча з правамі чалавека і дэмакратыяй у нашай краіне. Гэтай праблемай у Еўрапарламенце займаецца спецыяльная дэлегацыя па адносінах з Украінай, Беларуссю і Малдовай, якую ўзначальвае Эрыка Ман. Менавіта яна вяла паседжанне і прадэманстравала грунтоўнае веданне нашай сітуацыі. *«Мы выступаем за развіццё кантактаў з Беларуссю,* — падкрэсліла Эрыка Ман. — *Але ў Мінску чамусьці не разумеюць важнасці правоў чалавека для дэмакратычнага свету і гэтым самым ізалююць сябе ад Еўропы».* Дэпутат Элізабет Шродтэр нагадала, што Еўрапарламент прызнае легітымнасць беларускай Канстытуцыі 1994 г. *«І мы цвёрда трымаемся гэтай пазіцыі,* — сказала яна. — *Аднак сітуацыя застапарылася, беларускае кіраўніцтва адмаўляецца ісці на кампраміс у гэтым накірунку. Мы павінны шукаць новы курс адносінаў з Мінскам, але пры гэтым не можам пагадзіцца з тым, што ў Беларусі няма падзелу ўладаў, абмежавана свабода прэсы, слова, сходаў і не выконваюцца іншыя дэмакратычныя стандарты».*

### Дзе выйсце?

Палітыка абмежаваных кантактаў, якую ўжо другі год праводзіць Захад у дачыненні да Беларусі, пакуль не дала ніякіх станоўчых вынікаў — так лічаць многія дэпутаты Еўрапарламента. Таму, натуральна, яны задаюцца пытаннем наконт слушнасці такой палітыкі. Некаторыя выказваюцца за тое, каб змякчыць стаўленне да афіцыйнага Мінска, іншыя наадварот выступаюць за ўвядзенне больш жорсткіх санкцыяў.

Прадстаўнік міністэрства замежных справаў Вялікабрытаніі Аян Бонд, выкладаючы пазіцыю сваёй краіны, якая цяпер узначальвае Еўрапейскі саюз, заявіў, што неабходна трымацца цяперашняга курсу. *«Мы не павінны расчароўвацца, трэба быць цярплівымі, займаць прынцыповую пазіцыю, і беларускія ўлады ўрэшце-рэшт вымушаныя будуць вярнуцца на шлях дэмакратыі і рэформаў»,* — сказаў ён. Прыкладна гэтаксама выказваліся большасць іншых выступоўцаў. Аднак усіх цікавіла, што думае на гэты конт пасол Ханс-Георг Вік, кіраўнік назіральнай групы АБСЕ ў Мінску, які быў запрошаны на паседжанне ў Еўрапарламент выступіць з асноўным дакладам.

### Пасол Вік рэкамендуе...

У сваім дакладзе пасол Вік падвёў вынікі 4-месячнай дзейнасці ў Мінску групы АБСЕ, паведаміўшы, што члены місіі *«мелі свабодны доступ да ўсіх і ўсе мелі доступ да нас».* Характарызуючы сітуацыю ў Беларусі, ён падкрэсліў наступнае: *«Канстытуцыя 1996 г. не адпавядае еўрапейскім стандартам. Прэзідэнт Лукашэнка кіруе краінай як аўтакрат. Ён зацвярджае сваімі пастановамі і дэкрэтамі законы ў краіне. Ён працягвае цярпець (але толькі ў абмежаваных маштабах) палітычныя партыі, незалежную прэсу, няўрадавыя арганізацыі. Пастаянна даводзіцца назіраць аўтарытарныя дзеянні прэзідэнта і ягонае нежаданне дэмакратызаваць сітуацыю».*

Разам з тым кіраўнік групы АБСЕ лічыць бесперспектыўным настойваць цяпер на вяртанні Лукашэнкі да Канстытуцыі 1994 г., паколькі гэта, мяркуе, завадзіць усе перамовы ў тупік.

Па словах Віка, асноўныя палітычныя партыі Беларусі выказваюць гатоўнасць шукаць выйсце з крызісу, не выстаўляючы ў якасці абавязковай умовы вяртанне да Канстытуцыі 1994 г. Непрымірымую пазіцыю ў гэтым пытанні займае, як сказаў Вік, толькі адно крыло апазіцыі — дэпутаты з Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Напрыканцы свайго выступу пасол Вік рэкамендаваў Еўрапарламенту змякчыць патрабаванні да Мінска і праводзіць палітыку малых крокаў, не выстаўляючы канстытуцыйнае пытанне ў якасці асноўнага. Больш таго, Ханс-Георг Вік выказаўся ў тым сэнсе, што Захад павінен адступіць і прыняць канстытуцыю 1996 г., але, безумоўна, з пэўнымі карэкціроўкамі. Якое рашэнне па беларускім пытанні прыме Еўрапарламент — стане вядома праз пару тыдняў. Калі Еўропа схіліцца прыняць рэкамендацыі спадара Віка, то гэта можна будзе лічыць пэўнай перамогай Лукашэнкі і паразай апазіцыі. Праўда, меркаванне Віка хоць і аўтарытэтнае, але пераважае на Захадзе ўсё ж такі іншая думка. Не выключана, што да Беларусі могуць быць прымененыя больш жорсткія санкцыі, у тым ліку эканамічныя.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



*На здымку: беларускія ўдзельнікі на спецыяльным паседжанні ў Еўрапарламенце — (злева направа) Ігар Германчук, Генадзь Карпенка, Іосіф Сярэдзіч і Андрэй Саннікаў.*

### Залатая прэмія Васілю Быкаву

**Пісьменнік Васіль Быкаў атрымаў прэстыжную ўзнагароду — Міжнародную залатую прэмію святога Валянціна.**

Пасол Італіі Дж.Чэруці, які на мінулым тыдні ўручыў В.Быкаву залаты медаль і дыплом, падкрэсліў, што гэтая прэмія прысуджаецца выдатным дзеячам літаратуры і мастацтва за прынцыповую аўтарскую пазіцыю, сцверджанне гуманістычных каштоўнасцяў у творчасці. Сярод нядаўніх лаўрэатаў — сусветна вядомыя кінарэжысёр Антаніоні і пісьменнік Салжаніцын. «Я ў жыцці атрымаў нямала ўзнагарод, але гэтая — для мяне самая дарагая», — сказаў В.Быкаў, выступаючы з кароткім словам падзякі.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

### Дзяржава бярэ валютай

**У адпаведнасці з прэзідэнцкім дэкрэтам № 8 з 6 чэрвеня ўсе мытныя плацяжы за прывезеныя з-за мяжы аўтамабілі павінны выплачвацца ў валюце.**

Акрамя пошлін на траспартныя сродкі, беларусы павінны выплачваць у валюце мытныя плацяжы ў тым выпадку, калі ўвозяць у Беларусь рэчы звыш усталяваных нормаў.

Такім чынам для «чаўнакоў» і ўладальнікаў замежных аўтамабіляў выдаткі на мытнае афармленне ўзрастуць не менш чым на 50%. Такая розніца існуе паміж афіцыйным курсам і наяўнымі каціроўкамі долара на чорным рынку.

Мытнае ведамства само аказалася негатовым да гэтых новаўвядзенняў. *«Як будуць разлічвацца тыя, хто ўжо заплаціў за аўтамабіль наперад фінансавую гарантыю ў рублях, але яшчэ не прывёз сабе машыну?»* — на гэтае пытанне ў мытным камітэце нам адказаць не змаглі і параілі патэлефанаваць пазней. Патэлефануем — і паведамім чытачам.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Адкрыццё амбасады адкладваецца

**Адкрыццё новага офіса ўкраінскай амбасады, будаўніцтва якога завяршаецца ў Мінску, пераносіцца на канец года.**

Сіне-жоўты сцяг планавалася падняць над будынкам на пачатку чэрвеня, потым — у жніўні, на дзень незалежнасці Украіны. Як паведаміў нам прадстаўнік амбасады, затрымка адбываецца «па тэхнічных прычынах», удакладняць якія ён не стаў.

Украіна пабудавала офіс дыпламатычнага прадстаўніцтва толькі ў Беларусі, а ў іншых краінах памяшканні для пасольстваў арандуюцца. Цырымоніі адкрыцця новай амбасады ўкраінцы надаюць вялікае значэнне: магчыма, што з гэтай нагоды Беларусь наведае нават украінскі прэзідэнт. Аднак Кіеў не спяшаецца. Як вядома, лепей сем разоў адмерыць і адзін раз адрэзаць.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## КДБ будзе сачыць за міліцыяй

**У Гродне адбылася калегія абласной міліцыі з удзелам міністра В.Агальца.**

На калегіі было абмеркавана, як гродзенская міліцыя займаецца «самаачышчэннем» уласных шэрагаў і паляпшэннем дысцыпліны. Адзначана, што міліцыянты перасталі губляць зброю і боепрыпасы, радзей учыняюць крымінальныя злачынствы. Гэта — вынікі працы Службы ўласнай бяспекі міліцыі. А начальнік абласнога КДБ палкоўнік Мацюшка паведаміў прысутным на калегіі афіцэрам міліцыі, што за імі цяпер будзе дадаткова сачыць новая служба бяспекі, створаная ў КДБ. Гэтак загадана прэзідэнцкім указам, каб трымаць «пад каўпаком» супрацоўнікаў усіх сілавых структураў.

Міністр унутраных справаў, які, дарэчы, адзіны быў на калегіі ў цывільным, усіх крыху азадачыў. Ён сказаў, што дысцыпліна ў міліцэйскіх шэрагах павінна быць у сто разоў мацнейшай, чымся ў войску. А старазовае ўзмацненне — гэта не жартачкі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Мінюст супраць маладых палітыкаў

**Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджанне Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў.**

Маладыя палітыкі правініліся тым, што выкарыстоўваюць на бланках арганізацыі «незарэгістраваны лагатып». Для іх саміх было вялікім адкрыццём, што яны маюць лагатып. Яны заўсёды лічылі, што гэта проста скарочаная назва арганізацыі, набраная буйным шрыфтам — БАМП.

Зрэшты, у нашых умовах, калі людзі, якія проста ідуць па вуліцы, трактуюцца як «несанкцыяванае шэсце» — дык чаму б не трактаваць скарочаную назву як «незарэгістраваную сімволіку»? Міністэрства юстыцыі папярэдзіла БАМП аб магчымасці «пастаноўкі пытання аб ліквідацыі аб'яднання».

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

## У Статкевіча няма канкурэнтаў

**У Мінску ў суботу адбыўся III з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада.**

На з'ездзе прысутнічалі замежныя госці з Нямеччыны, Галандыі, Швецыі і іншых краінаў. Усе яны казалі пра сацыял-дэмакратычную салідарнасць і, адпаведна, пра тое, што не пакінуць Беларусь па-за ўвагаю. Прадстаўнік Еўрасаюза Франсуа Валін падкрэсліў: *«Мы нясём адказнасць за ўсю Еўропу, а не толькі за краіны Еўрапейскага Саюза»*. Віцэ-спікер ландтага зямлі Шлёзвіг-Гальштэйн Габрыэле Кёчаў распавяла пра камітэт «Салідарнасць», які створаны нямецкімі сацыял-дэмакратамі і займаецца справамі Беларусі. Па словах спн.Кёчаў, сёлета ў ліпені будзе завершана распрацоўка праграмы, якая прадугледжвае шырокае інфармаванне грамадскасці пра сітуацыю ў Беларусі, пашырэнне кантактаў паміж нямецкімі і беларускімі сацыял-дэмакратамі і іншую дапамогу.

Старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Расіі Павел Кудзінаў заявіў: *«Мы за вольную Беларусь, таму што мы за вольную Расію. Тое, што адбываецца ў Беларусі — пагроза ўсёй постсавецкай прасторы. Расія таксама балансуе на мяжы зрыву да аўтарытарнага рэжыму»*.

Па завядзёнцы партыйных з'ездаў, былі прыняты шэраг рэзалюцыяў, у тым ліку *«Аб стаўленні да выбараў»*. *«Наш удзел у выбарах у «палату» легалізаваў бы рэжым, але мала што даў бы для дэмакратызацыі грамадства»*, — гаворыцца ў гэтай рэзалюцыі. Што ж тычыцца прэзідэнцкіх выбараў, дык сацыял-дэмакраты лічаць мэтазгодным удзельнічаць у іх *«у тым выпадку, калі яны будуць свабоднымі і справядлівымі»*.

Выбары старшыні партыі паказалі, што бясспрэчным аўтарытэтам у БСДП з'яўляецца Мікола Статкевіч. Іншых кандыдатураў нават не вылучалася. Па выніках таемнага галасавання Статкевіч набраў 113 галасоў — супраць яго галасавалі толькі 3 дэлегаты.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Жонцы Кудзінава пагражаюць

### *Чыноўнікі не любяць «свяціцца» ў прэсе*

Наша газета ўжо не раз пісала пра лёс дэпутата і прадпрымальніка Уладзіміра Кудзінава. Сам ён на сем гадоў кінуты за краты, а гаспадарка ягонай фірмы «Івацэвічы», якую забрала сабе дзяржава, ушчэнт раскрадзеная.

Нядаўна пра гаспадарку Кудзінава расказвала праграма «Время» на ОРТ. Пасля гэтага ў Івацэвічы прыехала абласное начальства і зрабіла страшэнны разнос мясцовым «вертыкальшчыкам». Але не за тое, што дапусцілі раскраданне, — начальніцкі гнеў быў выкліканы тым, што на тэрыторыю гаспадаркі трапілі журналісты.

У той жа дзень жонцы дэпутата Зоі Кудзінавай патэлефанавалі невядомы. Ён прыгразіў, што калі Зоя не супакоіцца (г.зн. не перастане прыцягваць увагу грамадскасці да гэтай справы), «мы перакруцім справу так, нібыта ты сама вінаватая ў раскраданні гаспадаркі. Мы пасадзім цябе ў турму, і ты ніколі не пабачыш сваіх дзяцей». Зоя Кудзінава адказала, што запалохаць яе не ўдасца.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

**КАДРЫ**

*Яны будавалі камунізм. Ім паставілі манументальныя помнікі. Яны так і не даведаліся, што такое высокая мода.*

*А.Бяляцкі:*

# «Мы аказваем рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў»

Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» — недзяржаўная грамадская арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 года падчас масавых акцыяў пратэсту. Асноўныя намаганні «Вясны-96» накіраваныя на рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў: перадачы ў месцы зняволення, арганізацыя адвакацкай абароны, матэрыяльная і маральная падтрымка сем'яў палітычных вязняў.

Са студзеня 1998 г. Цэнтр наладзіў выпуск бюлетэня «Права на волю», які выходзіць на беларускай, рускай і англійскай мовах. Інфармацыя пра парушэнні правоў чалавека распаўсюджваецца таксама ў прэс-рэлізах.

Наш суразмоўца — старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесь Бяляцкі.



*Алесь Бяляцкі нарадзіўся ў 1962 г. у Карэліі. Жыў у г. Светлагорску, вучыўся у Гомельскім універсітэце на гісторыка-філалагічным факультэце, скончыў аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук. З 1990 г. — дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Удзельнік маладзёжнага падпольнага антыкамуністычнага руху, старшыня Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя»(1986-1989), дэпутат Мінскага гарсавета (1990-1996), сакратар Управы БНФ, сябра Саюза пісьменнікаў.*

**— Чым было выкліканае стварэнне Цэнтра?**

— Увесну 1996 года пачаліся сур'ёзныя рэпрэсіі супраць палітычных партыяў, пасля Чарнобыльскага шляху былі затрыманыя шмат людзей. Некаторых з іх, у прыватнасці Юрыя Хадыку і Вячаслава Сіўчыка, пасадзілі на доўгі час. Тады ўзнікла патрэба хутка аказаць магчымую дапамогу і сем'ям, і самім сядзельцам. Напачатку стварылася даволі стыхійная добраахвотная група, і так атрымалася, што каардынацыю яе дзейнасці ўзяў на сябе я.

На тыя часы не было нават вядома, хто сядзеў, за што сядзеў, колькі сядзеў, — дакладнай інфармацыі ў поўным аб'ёме не было. А калі і была, то не сцякалася ў адзін цэнтр, а праходзіла між рукамі людзей, якія займаліся іншым.

**— Ці недастаткова было Хельсінкскага камітэта і тых праваабарончых цэнтраў, якія існавалі ў Беларусі?**

— Аб'ём праваабарончай працы такі вялікі, што адзін Камітэт, які б ён ні быў моцны і вялікі, проста не можа ахапіць усе бакі гэтай працы.

Я хацеў бы нагадаць, што на той час ужо сядзеў у турме адзін беларускі паэт — за свой верш «Убей президента». І я сутыкнуўся з праблемай: тыя праваабарончыя арганізацыі, што ўжо існавалі (іх у нас было некалькі), — яны фактычна не займаліся аказаннем канкрэтнай дапамогі для людзей, якія трапілі ў крытычную сітуацыю. Гэтыя праваабарончыя арганізацыі вялі маніторынг, г.зн. апісвалі падзеі, распаўсюджвалі інфармацыю за мяжой, спрабавалі прыцягнуць увагу грамадскасці, але, паўтаруся, рэальнай падтрымкі ад іх не было.

Прыгадваю, калі я хадзіў і шукаў хоць нейкую дапамогу для таго паэта, то з цяжкасцю, толькі праз месяц мне ўдалося знайсці мінімальныя сродкі для яго маці, якая сапраўды мела вялікія выдаткі, бо мусіла перадаваць перадачы і ездзіць на спатканні. Тады я зразумеў, што трэба ствараць свой цэнтр на больш сур'ёзнай і грунтоўнай аснове.

**— Вы хочаце сказаць, што калі ў той час чалавека хапалі на мітынгу і садзілі за краты, дык гэта была толькі ягоная ўласная праблема і праблема ягоных сваякоў? Ім проста не было куды звярнуцца па дапамогу?**

— Так. Абсалютна.

**— А цяпер ёсць?**

— Так. Мы, «Вясна-96», папершае, стараемся вельмі хутка высветліць, якія людзі і куды трапілі. Мы спрабуем звесці гэтую інфармацыю ў адно цэлае — і адразу арганізаваць першую, няхай самую элементарную дапамогу. Напрыклад, калі некаму далі «суткі», мы імкнемся, каб у першы ж дзень ён панёс з сабой у камеру перадачу. Працэдура пасадкі такая, што чалавек можа паесці раз у суткі, а можа і раз у тры дні. Таму мы спрабуем забяспечыць элементарныя харчы, а пасля дастаўляем гэтаму чалавеку перадачы ў месца арышту. Калі ж пакаранне — штраф, то спрабуем знайсці фінансы ці дастаткова заможных асобаў, якія маглі б кампенсаваць гэтыя выдаткі.

Тое ж датычыць і крымінальных працэсаў. Я маю на ўвазе не адміністратыўныя (г.зн. «сутачныя»), а больш доўгія працэсы, якія цягнуцца і тры, і чатыры, і шэсць месяцаў. Мы дапамагалі і Аляксею Шыдлоўскаму, і Вадзіму Кабанчуку, і Алесю Мухіну, і Паўлу Севярынцу, і іншым. Для нас галоўнае, каб людзі і іхнія сем'і не апынаціся з бядой сам-насам.

Варта сказаць, што тым студэнтам, каго выключылі за палітычную актыўнасць, мы дапамагаем уладкавацца на вучобу за межамі краіны.

**— Вы займаецеся толькі палітычнымі справамі?**

— Сфера абароны правоў чалавека значна шырэйшая. Адна са складаных справаў, якая нядаўна трапіла да нас, — гэта зварот асуджанага на смерць чалавека, які здолеў перадаць ліст з турмы. Ліст адрасаваны менавіта на наш Цэнтр, і ён просіць дапамогі. Яго абвінавацілі ў двух забойствах, як ён сцвярджае, беспадстаўна. Ён прыводзіць аргументацыю, якая патрабуе сур'ёзнага разгляду, і мы, натуральна, будзем звяртацца да юрыста, які мог бы прафесійна працаваць з гэтай справай.

**— Цяпер палітычнымі арыштамі на вуліцах Мінска не здзівіш нікога. Мне ўпершыню давялося ўбачыць нешта падобнае на Дзядах 1988 года. Час нашых вачах міліцыянты кінулі вас, Алесь, у машыну...**

— Сапраўды, стаж дачыненняў з міліцыяй у мяне даволі вялікі. Гэта пачалося з 1988 года, з Дзядоў, якія мелі шырокі рэзананс і далі штуршок развіццю грамадскага руху на Беларусі. Я быў адным з арганізатараў мітынгу. Тады ж я быў арыштаваны і адразу асуджаны: гэта быў імгненны суд. Мне далі вялікі па тых часах штраф — 200 рублёў, адразу дзве мае аспіранцкія стыпендыі. Але мне дапамаглі людзі, праявілі салідарнасць, сабралі грошы. На працягу наступных дзесяці гадоў мяне затрымлівалі каля дваццаці разоў. Маючы такія шчыльныя адносіны з міліцыяй, з нашымі судамі, безумоўна, я адчуваў, што патрэбна людзям.

**— Чым «Вясна-96» адрозніваецца ад іншых праваабарончых арганізацыяў?**

— Мы пабудавалі сістэму абароны тых людзей, якія трапляюць у крытычныя сітуацыі. Мы — арганізацыя, якая аказвае канкрэтную, рэальную дапамогу людзям, якія пацярпелі ад палітычных рэпрэсіяў.

Паказальны выпадак быў ужо напачатку 1997 года з Алесем Цішуком: ён удзельнічаў у акцыях пратэсту ў лютым, адразу ж быў схоплены, трапіў у турму, праседзеў паўтара месяца, — а ніхто пра яго нічога не ведаў. Такая сітуацыя — абсалютна недапушчальная. І вось на працягу 1997 года пад дахам нашай арганізацыі ўзнікла структура. Я не скажу, што яна дасканалая, але тым не менш — гэта надзейная сістэма дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

**— А як з вамі можна звязацца?**

— Кантактны мінскі тэлефон, па якім можна перадаць інфармацыю для нас, — 233-65-60.

*Гутарыла* **Галіна КАВАЛЁВА**

# Наивные вопросы о евро

*В Западной Европе грядет денежная реформа*

**1. Что это за новые «евроденьги» и какие валюты они заменяют?**

Несколько дней назад Европейская комиссия объявила, что из 15 стран, входящих в Европейский союз, 11 готовы к введению с января 1999 года новой валюты — евро. Первыми со своими национальными деньгами, заменив их на «общеевропейские», расстанутся Бельгия, Германия, Испания, Франция, Ирландия, Италия, Люксембург, Нидерланды, Австрия, Португалия и Финляндия.

Англичане, шведы и датчане пока решили воздержаться от вступления в европейский «валютный клуб», а греков просто не приняли. Их экономика пока что оставляет желать лучшего. «Богатенькие» швейцарцы и норвежцы вообще стоят в стороне от европейской интеграции и даже не входят в Евросоюз, поэтому швейцарский франк с норвежской кроной еще долго не выйдут из употребления.

**2. Когда же мы скажем последнее «прощай» маркам и лирам?**

Введение новой валюты пройдет в два этапа. Первый начнется первого января 1999 года и рассчитан на три года. В это время в Европе будет «двоеденежье» — наряду с евро по-прежнему будут ходить все национальные валюты. Лишь с 1 января 2002 года евро станет полновластным хозяином европейских денежных просторов, а национальные «Бундесбанк» или «Банк де Франс» передадут свои полномочия Европейскому центральному банку, в котором по очереди будут председательствовать все страны, входящие в «зону евро».

Кстати, введение общей европейской валюты окажется отнюдь не дешевым удовольствием. Одни лишь новые ценники на товары и перепрограммирование компьютеров тянут на 50 миллиардов долларов...

**3. Зачем же нужна привыкшим к комфорту и спокойствию европейцам вся эта столь недешевая затея?**

Ведь нынешняя система национальных валют функционирует вполне нормально!

Большинство европейских сторонников общей валюты считает, что введение евро поможет закрепить успехи от создания в Европе свободного от границ и таможен экономического пространства, углубить интеграцию, превратить Старый Свет в некое подобие Соединенных Штатов Европы. Они называют евро «валютой будущего» или «деньгами XXI века», которые еще сильнее сплотят 370 миллионов европейцев.

**4. А что говорят критики затеи с евро?**

Есть, разумеется, и скептики, и даже откровенные враги новых европейских денег. Их главный аргумент — введение евро преждевременно, вначале Европа должна выровнять экономические показатели. А то в Австрии средний годовой доход на душу населения — 27 тысяч долларов, а в Португалии и до 10 тысяч не дотягивает. В современном Евросоюзе, утверждают они, чуть ли не половина бюджета и так уходит на помощь «бедным» испанцам, португальцам и грекам...

Второй аргумент касается безработицы и инфляции. Скептики пугают, что с введением евро безработных в Европе станет больше, а цены рванут вверх.

В-третьих, неизбежно обострятся старые противоречия (например, между Францией и Германией), а также возникнут новые, хотя бы из-за очереди командовать в Европейском центральном банке. Такое, кстати, уже произошло — в прошлом ноябре Франция, Германия и Голландия на повышенных тонах оспаривали друг у друга право первыми занять там председательское кресло. В целом же критики утверждают, что евро — игрушка политиков, которую они предлагают недоросшей Европе, вагон, бегущий впереди локомотива...

Особенно недовольны финансовым объединением Евросоюза американцы, которые повели на евро мощное пропагандистское наступление. И тем не менее заменить в будущем свои кроны, злотые и форинты на евро не прочь в Чехии, Польше, Венгрии, Эстонии и Словении.

**Алексей КАРЦЕВ**

# Сто дней президента Адамкуса

**Сто дней нахождения президента Литвы Валдаса Адамкуса у власти не обошла вниманием ни одна ведущая газета Литвы. Газеты поместили и собственные комментарии, и оценки политиков, и интервью с самим Валдасом Адамкусом, по признанию которого, он стал за это время большим реалистом.**

Одним из самым больших своих разочарований в интервью газете «Летувос ритас» глава государства назвал «взаимоотношения политических структур Литвы» и сказал, что «ни в коем случае не позволит втянуть себя в какую-нибудь внутриполитическую борьбу, так как это не послужит благу Литвы». Однако и пассивным наблюдателем событий президент, по его словам, оставаться не намерен. В.Адамкус с похвалой отозвался о свободной литовской печати и заявил о намерении, в случае необходимости, защищать ее.

По мнению «Летувос ритас», за сто дней Валдас Адамкус доказал, что не является пассивным руководителем страны, что, согласно социологическим опросам, сделало его самым популярным политиком. В редакционной статье газета отмечает, что не имеющему в Сейме своей партии президенту будет нелегко проводить самостоятельную политику, однако завоеванное им доверие людей, пожалуй, важнее, чем поддержка какой-либо партии.

«Летувос айдас» считает, что наиболее заметно В.Адамкус проявил себя при формировании кабинета министров. В целом положительно оценивая президентскую команду, газета критикует некоторые назначения В.Адамкуса на посты советников.

Политики, к которым «Летувос айдас» обратился с просьбой дать оценку первым ста дням нахождения президента у власти, отметили его внимание к конкретным проблемам, самостоятельность и независимость, а также хорошие взаимоотношения, сложившиеся между президентом, сеймом и правительством.

*ELTA-ETA*

# России правительство не нужно

*Со всем успешно справляется администрация президента Ельцина*

За два года, прошедшие после президентских выборов, Борис Ельцин трижды пытался перестроить структуру правительства и даже заменил премьера. Борис Ельцин неоднократно говорил об обновлении правительства, сокращении бюрократического аппарата и проведении административной реформы. Но все структурные пертурбации касались исключительно кабинета министров. Президентский аппарат продолжал бесконтрольно разрастаться.

В то время как в правительстве пытались бороться с вице-премьерами, в Кремле плодили заместителей главы президентской администрации (статус которых, по чиновной табели о рангах, равен вице-премьерскому). И на сей момент их популяция достигла цифры двенадцать — беспрецедентное в Европе число.

### Чубайсики

Когда в конце лета 1996 года ельцинский аппарат возглавил Анатолий Чубайс, он привел в Кремль и на Старую площадь, где заседает президентская администрация, «своих» людей. Рассадил их на ключевых постах, перекроил структуру. А главное — провел массовое увольнение старожилов.

Тогда же, в 1996 г., Чубайс сформулировал основные задачи администрации: контроль за органами исполнительной власти (читай — за деятельностью правительства), региональная политика, создание и поддержание привлекательного имиджа главы государства и власти в целом. Цель, которую преследовал Чубайс, никем особо и не скрывалась: в противовес аморфному и неповоротливому правительству создать динамичную команду в окружении президента. Команду, способную в критической ситуации заменить беломидомовских обитателей и взять штурвал управления страной в свои руки.



*Глава президентской администрации Валентин Юмашев (на снимке с Борисом Ельциным он справа) не простой руководитель аппарата. Он даже больше чем премьер-министр, но знают об этом не все.*

*А Анатолий Чубайс весной покинул Кремль, но запущенная им бюрократическая машина работает: дело Чубайса живет и побеждает.*

За неполные два года, несмотря на уход из президентского аппарата не только Чубайса, но и почти всей его команды, приоритеты в работе администрации не претерпели почти никаких изменений. Несмотря на то, что президент заявил: правительство впредь не будет находиться под такой плотной опекой администрации, как ранее.

### Кураторы

В 1992 году тогдашний глава администрации Юрий Петров впервые предпринял попытку «подмять» под себя правительство и превратить его по сути в свое подразделение. Однако фактический глава правительства Егор Гайдар сумел одержать чрезвычайно важную победу: добился для либерального кабинета «министров-капиталистов» определенной автономии от президентских структур, тяготевших к старым партийным принципам руководства, и получил возможность сформировать независимый от Кремля аппарат правительства. Впоследствии новая Конституция и закон о правительстве, казалось бы, закрепили завоевания Гайдара. Однако формально независимое правительство фактически находится под неусыпным надзором и опекой президентских чиновников.

«Администрация президента — это не теневой кабинет, это аналог ЦК КПСС. Они все контролируют, но ни за что не отвечают», — объясняют правительственные чиновники. У Старой площади нет финансовых рычагов, сидящие там начальники не могут, например, отдавать распоряжения непосредственно министру финансов. Они это делают через президента.

«Мы осуществляем политическое руководство правительством», — констатировал в свое время Михаил Комиссар, заместитель руководителя администрации. Выражается оно в первую очередь в направлении кадровой политики. Часто о решениях Бориса Ельцина премьер узнает последним. Президент «пришел к выводу» — и премьер отправляется писать постановление. Еще одно проявление «политического руководства» — визирование президентскими службами и самим президентом всех исходящих из Белого дома бумаг.

Наконец чрезвычайно показательно, что главный финансовый документ страны — бюджет (по крайней мере, его основные положения) — пишется на Старой площади под непосредственным руководством Александра Лившица. Он всякий раз провозглашает очередной проект самым реалистичным и лучшим из лучших, а после утверждения сметы парламентом принимается критиковать правительство за нереалистичный бюджет и предрекать его невыполнение.

Так что все рассуждения Бориса Николаевича о том, что, дескать, Черномырдину мы не очень доверяли, а новому премьеру Кириенко предоставляем полную свободу рук, — только слова. Виктор Черномырдин был крупной политической фигурой. А Сергей Кириенко в глазах президентских чиновников не более чем выскочка.

### Политики

Многие руководители стран СНГ — в силу своей неосведомленности или наивности — стараются строить отношения с правительством. «Вице-премьер Г. имел встречу с вице-премьером С.», — в таком стиле могут радостно рапортовать газеты в Беларуси или Казахстане. На самом деле сие ничего не значит. Все решает администрация Ельцина.

А там сидят люди прагматичные, резкие, хваткие. И амбициозные. Выражений типа «жульё» они не прощают. И все политические отношения определяются именно там. Поэтому местные князьки тщатся зря, задирая нос выше «крыши»: ростом Ельцина еще никто не превзошел.

### Имиджмейкеры

В окружении президента категорически отрицают, что начали подготовку к новым президентским выборам. «Мы просто хотим заняться имиджем власти», — говорят в Кремле. И в то же время признают: «Нам нужны мощные рычаги влияния на общественное мнение». Прежде всего это необходимо для того, чтобы объяснять обществу мотивы тех или иных действий главы государства. «Почему отставили правительство Черномырдина?» — спрашивали мы. Ответа не было.

Забота о том, какой образ власти формируется у избирателя, и стремление обеспечить политику органов российской власти — главная сфера президентской администрации. Однако очередное решение заняться «имиджем власти» (а его главная составляющая, как ни крути, образ президента) как бы невзначай совпало с созданием крупного государственного медиа-холдинга и выступлением Бориса Ельцина, посвященным вопросам независимости прессы и взаимоотношениям СМИ и власти. А имиджмейкерская команда Кремля во главе с дочерью Ельцина Татьяной Дьяченко получила пополнение — Игоря Шабдурасулова, бывшего «офицером по связи с прессой» при Черномырдине.

С таким настроем улучшить образ власти и президента в глазах общественности непросто, но возможно. И пока чиновникам действительно лучше отрицать, что администрация президента постепенно превращается в предвыборный штаб. Вдруг некоторые поверят...

Впрочем, на реальных президентских выборах все равно никому победы не видать. Кроме Ельцина. Если доживет.

**Григорий ВОСКОБОЙНИКОВ,**
*обозреватель журнала «Итоги»*

# Гульні ў бізнес для дарослых

**Слова «піраміды» ў Беларусі, як і ва ўсім свеце, добра вядомае. Гэта не толькі таямнічыя збудаванні недзе ў Егіпце, гэта высокадаходны для адных і вельмі стратны для іншых від махлярскага бізнесу.**

У Беларусі «піраміды» пачалі «будавацца» яшчэ ў часы СССР, але сталі больш-менш вядомымі толькі пасля шумнага краху «МММ» у суседняй Расіі. Пасля гэтага беларусаў чакалі свае беларускія піраміды накшталт фірмаў «Новая генерацыя», «Мыза», «Сэкай» і гэтак далей. Усе яны на словах давалі ўкладчыкам шанец хутка стаць «мільянерамі» за кошт вялікіх працэнтаў. Грошы зніклі, а патэнцыйныя «мільянеры» сталі ахвярамі.

«Піраміды» — зусім не савецкае вынаходніцтва. Гэта заходні, імпартовы досвед. Ёсць звесткі, што першая фінансавая «піраміда» была арганізаваная ў Францыі яшчэ ў 1720 г. Акрамя грашовых, існуе яшчэ шмат разнавіднасцяў «пірамідаў». І ў некаторых выпадках скрадзеныя грошы нельга лічыць скрадзенымі ў прамым сэнсе гэтага слова.




*Падобнага роду аб'явы, якія прапануюць «бясплатна» аздаравіцца, пахудзець і г.д., можна часта ўбачыць у горадзе. Адны, магчыма, вылечацца, другія — разбагацеюць, трэція — несумненна страцяць свае грошы.*

## Грошы, працэнты, ахвяры

Гэта самая вядомая і добра адпрацаваная ў Беларусі схема. Прапануецца ўкласці грошы пад вялікі працэнт. Але гэты працэнт забяспечваецца не інвеставаннем сродкаў у нейкія бізнесавыя аперацыі, а прыцягненнем новых кліентаў: сённяшняму ўкладчыку заплацяць з грошай, якія прынясе заўтрашні даверлівы. Схема працуе датуль, пакуль расце колькасць ўкладчыкаў і ўкладаў. Калі ж спыняецца рост піраміды, кампанія, якая збірае ўклады, хутка становіцца банкрутам, яе кіраўнікі — крымінальнікамі, а ўкладчыкі атрымліваюць статус «падманутых».

Нашая публіка на такіх хітрыках не раз пападалася. Таму цяпер больш папулярныя (і больш прыбытковыя) іншыя схемы, дзе ўдзельнікам піраміды даецца за грошы нейкі тавар, ствараючы ілюзію эквівалентнага абмену.

## Хочаш пахудзець?

Першымі сярод замежных кампаніяў распачалі свой бізнес на рынках былога СССР не салідныя фірмы кшталту *Philips* ці *Levi's*, а зусім іншыя структуры. Першапраходцамі былі людзі са значкамі «Хочешь похудеть — спроси меня как». Гэта быў «Гербалайф», а потым да яго далучыліся і іншыя кампаніі, якія распаўсюджваюць свой тавар паводле пірамідальнага прынцыпу.

Як звычайна, «піраміда» пачынаецца з прапановы патэнцыйнаму ўдзельніку «зарабіць мільёны». Для таго, каб паведаміць аб гэтым, будучага «мільянера» запрашаюць на спецыяльную імпрэзу, дзе яму дураць галаву прадстаўнікі кампаніі. Звычайна публіку ловяць з дапамогай рэкламных аб'яваў тыпу «прапануем высокааплатную працу ў заходняй кампаніі». Будзьце ўважлівыя!

На імпрэзе прадстаўнікі фірмы распавядаюць, як яны, былыя гаротнікі, зарабілі вельмі шмат грошай дзякуючы гэтай кампаніі. Калі ўдзельнікі такой прэзентацыі пачынаюць зайздросціць іх лёгкаму жыццю, ідуць у ход тлумачэнні — «Мільёны зарабіць вельмі проста...»

Тавар ёсць заўсёды. Яго можна прадаць, напрыклад, за 150 долараў, набыўшы перад гэтым за 100. Але гэта не адзіны шлях павелічэння прыбыткаў. Прадавец можа не толькі збыць тавар, але і адшукаць новага прадаўца. І, знайшоўшы гэтага прадаўца, ён, згодна з умовамі кампаніі, можа атрымаць пэўны працэнт ад таго, што прадасць новы прадавец. Плюс працэнт ад сумаў, атрыманых новым прадаўцом ад продажу тавараў іншымі прадаўцамі, якіх гэты новы гандляр зможа прыцягнуць. У выніку прыбыткі першага прадаўца гіпатэтычна ўзрастаюць не столькі ад продажу тавараў, колькі ад уключэння прадаўцамі ў гандлёвую сетку новых даверлівых суб'ектаў.

У кампаніях падобнага кшталту будучыя прадаўцы павінны заплаціць уступны ўзнос, часам — прайсці навучанне за свой кошт. Да паловы гэтага ўзносу атрымоўвае прадавец, які прывёў новага супрацоўніка. Іншую таксама шмат прывілеяў для найбольш пасляховых партнёраў, якія паступова ўводзяцца ў склад кіраўніцтва кампаніі і атрымліваюць працэнт ад агульнага прыбытку фірмы.

І калі знайшлася дастатковая колькасць прадаўцоў, «піраміда» пачынае працаваць. Але ж чым больш прадаўцоў — тым меншыя іх прыбыткі. Рост «піраміды» абмяжоўваецца попытам. І настае час, калі тавар ужо немагчыма прадаць. Прадаўцы церпяць страты, не акупаючы ні свае ўзносы ў кампанію, ні выдаткі на набыццё тавару. Прыбытак атрымлівае толькі той, хто быў сярод першых.

Таварныя «піраміды» не развальваюцца так хутка, як гэта адбываецца з грашовымі. Кампаніі маюць шанцы існаваць нават дзесяткі гадоў. Яны звычайна гандлююць унікальным таварам, на які ёсць рэгулярны попыт (касметыка, сродкі для пахудзення). Яшчэ лепшы прыклад — наркотыкі: попыт забяспечваецца самім таварам, а адсутнасць канкурэнтаў — незаконнасцю.

Дарэчы, на думку эканамічных экспертаў, схема продажу праз «таварныя піраміды» скапіравана якраз з гандляроў наркотыкамі.

## Лісты здалёк

Ёсць яшчэ адзін даволі распаўсюджаны від «пірамід». Гэты варыянт можна апісаць наступным чынам: чалавек атрымлівае пісьмо з рэкламай — колькі ён можа зарабіць грошай, дасылаючы лісты з апісаннем схемы. У лісце — просьба даслаць нейкую суму грошай па спісе некальком чалавекам. За гэта людзі абавязваюцца ўносіць новага члена піраміды ў падобныя спісы.

Такія «піраміды» знікаюць асабліва хутка. Рынак насычаецца — і на гэтым стоп. Выйграюць толькі тыя, хто ў самым пачатку спісаў.

## Свет гуляе ў «піраміды»

Як ужо адзначалася, «піраміда» — старое вынаходніцтва. Улады развітых краінаў стараюцца абараніць сваіх грамадзянаў ад гэтых махлярстваў. Зрэшты, некаторыя з іх заснаваныя не столькі на падмане, колькі на псіхалагічным эфекце і незразумеласці для большасці людзей механізму «пірамідальных» прыбыткаў.

Кожная краіна прайшла праз папулярнасць «пірамідаў». Напрыклад, Злучаныя Штаты хварэлі на «піраміды» ў 60—70-я гг. Федэральным ведамствам давялося у сярэдзіне 70-х разгарнуць моцную барацьбу з «пірамідамі». Быў нават прыняты адпаведны закон.

Але ў Беларусі пакуль рэальна можна гаварыць толькі пра барацьбу з пірамідамі фінансавымі. Нядаўна было ліквідавана некалькі кампаніяў, якія займаліся падобнымі аперацыямі. Аднак апошнім часам у Беларусі ўсё больш з'яўляецца прадстаўнікоў «міжнародных» структураў, якія збіраюць уклады пад невялікі працэнт, але прапануюць адначасова зарабіць за кошт прыцягнення новых укладчыкаў.

Між тым у кожнай «пірамідзе» адзін прынцып — зарабіць можна, калі ты стаіш у самым пачатку піраміды, а лепш за ўсё — калі сам яе стварыў. І тут трэба глядзець: ці цябе раздзяруць раз'юшаныя прадаўцы, якія нічога не зарабілі, ці давядзецца звядаць, што такое Крымінальны кодэкс.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Даты і лёсы

## *9 чэрвеня*

**1898.** Ганконг перайшоў на 99 гадоў у арэнду да Вялікабрытаніі. У 1997 г. вострай вярнуўся ў склад камуністычнага Кітая.

**1913.** Нарадзіўся англійскі гінеколаг Патрык Стэптоў: ён прыдумаў рэвалюцыйны спосаб барацьбы з бясплоднасцю — перасадку ў жаночае улонне эмбрыёнаў, пачатых «у прабірцы».

**1938.** СССР і Польшча падпісалі пагадненне пра гарантыі дзяржаўнай мяжы. Таму ў верасні 1939 г. палякі і не чакалі нападу з усходу, што дазволіла савецкім войскам вельмі хутка заняць Заходнюю Беларусь.

**1943.** У Багдадзе нарадзіўся вядомы дызайнер і калекцыянер сучаснага мастацтва Чарльз Саачы, які разам з малодшым братам Морысам стварыў найбуйнейшае ў свеце і самае прыбытковае рэкламнае агенцтва *Saatchi and Saatchi* (мае філіі ў 90 краінах).

## *10 чэрвеня*

**1562.** Сымон Будны выдаў у Нясвіжскай друкарні «Катэхізіс» — першую кнігу на старабеларускай мове, надрукаваную на тэрыторыі сённяшняй Беларусі.

**1793.** У Парыжы адчыніўся першы публічны заапарк *Jardin des Plantes.*

**1925.** Янка Купала першы атрымаў ганаровае званне народнага паэта Беларусі.

**1936.** Улады знішчылі ў Верхнядзвінскім раёне старажытны Рагвалодаў (Барысаглебскі) камень, якому ў паганскія і пазнейшыя часы пакланяліся мясцовыя жыхары.

**1943.** Венгерскі гіпнатызёр, скульптар і журналіст Ласла Біра запатэнтаваў шарыкавую ручку. Між іншым, прыладу, без якой цяжка ўявіць сабе наша сённяшняе жыццё, Біра распрацаваў яшчэ ў 1938 г., але доўгі час не мог знайсці фабрыканта, які зацікавіўся б навінкай.

**1956.** Пад Мінскам адбылося ўрачыстае адкрыццё Заслаўскага вадасховішча.

**1967.** Краіны Варшаўскага дагавора, а таксама Югаславія парвалі дыпламатычныя адносіны з Ізраілем у сувязі з пачаткам «шасцідзённай вайны» на Блізкім Усходзе.

## *11 чэрвеня*

**1910.** Нарадзіўся знакаміты французскі падарожнік і біёлаг, вынаходнік акваланга і падводнай відэакамеры Жак-Ў Кусто.

**1931.** Камандуючым Беларускай вайсковай акругі быў прызначаны Еранім Убарэвіч. І ў гэты ж дзень у 1937 г. ён быў расстраляны як нібыта нямецкі і японскі шпіён.

**1955.** На аўтагонках у Ле Мане (Францыя) тры аўтамабілі выляцелі ў натоўп гледачоў. Больш за 100 чалавек былі параненыя, 80 загінулі: гэта самая жахлівая катастрофа ў гісторыі аўтаспорту.

**1970.** У Нью-Йорку памёр былы лідэр расійскай дэмакратыі Аляксандр Керанскі.

**1996.** У выніку выбуху ў адным з вагонаў Маскоўскага метро 4 чалавекі загінулі і 12 былі параненыя. Тэрарысты, хутчэй за ўсё, належалі да чачэнскіх партызанаў.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**



## Рэкорд Беларусі ці ўсёй Еўропы?

У Светлагорску сем'і распадаюцца хутчэй, чым ствараюцца: на кожныя сто шлюбаў прыпадае ажно 105 разводаў. У сярэднім па Беларусі на сто шлюбаў прыпадае 68 разводаў, і па гэтым паказчыку Беларусь займае адно з першых месцаў у Еўропе. Так што Светлагорск прэтэндуе на рэкорд не толькі Беларусі, але і Еўропы.

**У.В.**

## Выгадней за наркотыкі

Па ацэнках спецыялістаў, нелегальны транзіт праз мяжу «жывога тавару» стаў самым даходным бізнесам, абышоўшы гандаль наркотыкамі і аўтамабілямі. Перакідка праз мяжу аднаго нелегала прыносіць арганізатару прыбытак ад 3 да 10 тысячаў долараў. Па словах начальніка Гомельскага памежнага атрада палкоўніка Сяргея Хілюціча, за пяць месяцаў сёлетняга года на гомельскім участку мяжы затрыманы 435 парушальнікаў. У большасці гэта нелегалы-мігранты з азіяцкіх краінаў: Кітая, В'етнама, Пакістана, Бангладэш. Супраць арганізатараў такога бізнесу ўзбуджаны пяць крымінальных справаў, аднак паток нелегалаў не змяншаецца.

**М.Ж.**

## У наступ на шэрых

У Асіповіцкім раёне Магілёўскай вобласці лясніцтвы выдаюць дазволы на тэрміновы адстрэл ваўкоў. Трэба зазначыць, што да апошняга часу тут шэрых асаблівa не турбавалі. Па дадзеных лясніцтва, у раёне цяпер жыве цэлы заапарк: 350 дзікоў, 300 аленяў, каля 150 ласёў, 300 лісаў і 350 баброў. Але расплодзіліся і ваўкі: зафіксаваны напады на калгасныя статкі. Паляўнічая за два апошнія месяцы забілі 18 ваўкоў — гэта больш, чым за ўвесь мінулы год. Самая паспяховая зброя ў паляўнічага з пасёлка Татарка Валянціна Фурса. У гэтым годзе ў яго ўжо некалькі драпежнікаў на рахунку, а ўвогуле Валянцін здолеў застрэліць больш за трыццаць ваўкоў.

**Іван ЗАСАДА**

## Мышы заразілі дзяцей

У горадзе Івацэвічы Брэсцкай вобласці — бяда: 26 дзяцей захварэлі на іерсеніёз. Распаўсюднікамі гэтай небяспечнай інфекцыі, якая можа выклікаць сур'ёзныя пашкоджанні нервовай сістэмы, з'яўляюцца мышы і пацукі. Медыкі мяркуюць, што дзеці заразіліся праз моркву, з якой кухары дзіцячага садка «Алеся» прыгатавалі салату. У выніку 18 дзетак паклалі ў бальніцу, астатнія лечацца дома.

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1198 Нумар падпісаны ў друк 08.06.98 (15:00) Наклад — 18.500